# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі: Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 39 ЖНІВЕНЬ — 1973 — AUGUST ГОД. 19**


## САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

**Да высокадастойнага Сьвятарства й да ўсіх Багалюбных вернікаў нашых**

**Улюбёныя ў Госпадзе Айцы Духоўныя!**

**Дарагія Браты й Сёстры!**

Пасылаем Вам нашае Архіпастырскае словасьвячаньне і ў шчырых словах прыпамінаем Вам пра вялікія сёлетнія юбілеі.

23-га травеня сёлета мінула ўжо 800 год з дня сьмерці Сьвятой Ефрасіні, уроджанай князёўны Полацкай Прадславы, заступніцы нашай прад Госпадам. Ззамаладу даўшы прырачэньне на служэньне Богу, Яна ўсё сваё жыцьцё ахвяравала на пашырэньне навукі Хрыстовае, на шырэньне сярод свайго народу асьветы ў любові Хрыстовай, будаваньне Дамоў Божых, зь якіх Царква Хрыста Спаса ў Полацку цудам захавалася да нашых дзён, ды на злучэньне ўсяго нашага народу ў адзінай Сьвятой Праваслаўнай Царкве. Дзейнасьць Сьвятой Ефрасіні неацаненная, памяць пра Яе незабыўная, і пашана сярод народу нашага вялікая й незгасальная.

Таксама 23-га травеня 1948 году адбыўся на чужыне ў Канстанцы Сабор, на якім было пастаноўлена аднавіць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Ад таго часу мінула ўжо чвэрць сталецьця. Пастанова гэтая мае вялікае гістарычнае значэньне. Аднаўленая БАПЦарква, на аснове існуючай ужо ў X-XI сталецьцях нашай Праваслаўнай Царквы ў Полацкім княстве, умацаванай дзякуючы дзейнасьці й малітвам Сьвятой Ефрасіні, ды праз Яе-ж стараньні й добрыя дачыненьні з Візантыйскімі Патрыярхамі й Імпэратарамі, нашая Царква ўжо ў тыя часы ўвайшла ў духовую лучнасьць з Царквою Маткаю праз прызнаньне Ўсяленскай Патрыярхіяй.

У XIII сталецьці Полаччына ўвайшла ў склад Вялікага Княства

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Літоўскага, збудаванага на нашым грунце й сіламі пераважна нашага народу, да якога вылучна й прыкладаўся гэты назоў — Літоўскі. Згодна Патрыяршых актаў, наш — Беларускі Мітрапаліт Феафіл прымаў удзел у нарадах Сыноду Ўсяленскае Патрыярхіі ў Канстантынопалі. Гэта сьветчыць пра тое, што Беларуская Праваслаўная Царква закладалася на кананічных асновах. І на падставе гэтага на Саборы 27, 28, 29 травеня 1972 году была абвешчана Мітраполія й выбраны Мітрапаліт.

Абвешчаньне Мітраполіі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы — гэта знаменная дата ў гісторыі нашае Царквы й яе вялікай місіі. Праз увесь час дзейнасьці БАПЦарквы было імкненьне да захаваньня вернасьці рэлігійнай, да развою нацыянальнае культуры праз царкву, да злучэньня ў аднэй царкве ўсіх праваслаўных Беларусаў у вольным сьвеце, намагаючыся ўсьведамляць і прыпамінаць, што Беларусы, якія жывуць у Амэрыцы, Канадзе, Эўропе, Англіі, Аўстраліі ды парассыпаныя па іншых краінах — дзеці аднэй Маці-Беларусі, што ў іх тая самая кроў і тыя самыя беларускія косьці, а таму — да якіх-бы ўгрупаваньняў яны ні належалі, зьяднаньне заўсёды магчымае й пажаданае. Нашая Сьвятая Царква, як маці заўсёды шукае супакою нутранога, з любоўю імкнецца ўсталіць нармальныя суадносіны з кажным праваслаўным вернікам ды захаваць адзінства ў супольстве Св. БАПЦарквы. І заўсёды гэта чыніць згодна з сьвячэннымі канонамі й царкоўнымі правіламі.

Прышласьць нашае Царквы ў нас самых. Мы павінны быць сьведамыя таго, што заданьні нашыя ня лёгкія, але павінны памятаць пра патрэбы нашае царквы й супольна дбаць пра развой духовы, адначасна й пра грамадзкае жыцьцё ўва ўсіх краінах сучаснага расьцярушаньня. Самае сучаснае жыцьцё накладае на нас абавязкі вялікай ахвярнасьці й высілкаў. Мы мусім ня толькі ўтрымліваць цяперашні стан рэлігійнае дзейнасьці, але ўзмацняць яго, а перадусім удасканальваць нашыя духовыя пачуцьці й цьвёрдасьць у веры.

У сучаснасьці нашая Царква ўпоўні забясьпечана для Яе Аўтакефаліі. Згодна веры нашай Бог паслаў нам радасьць і духовае адраджэньне. Таму не належыць слухаць варожае прапаганды пра нашую некананічнасьць. Хто-ж магутнейшы за Бога? Каго, апрача Яго, мы павінны баяцца? Гэта можа чыніць толькі той, хто мае сумніў у Божай Праўдзе. Няпэўнасьць можа мець толькі той, хто для ўцехі свайго цела гатовы занядбаць сваю душу. Нашыя жаданьні не супярэчлівыя Праўдзе Божай, і калі ўгодна Богу, то ніхто нас не пераможа!

Сьвяткуйма ўсе нашыя юбілеі ў шчырасьці й любасьці, а не з пачуцьця абавязку. Нашыя папярэднікі пераказалі нам вельмі багатую спадчыну, а таму неабходна прадоўжваць распачатую імі вялікую справу. Час робіць свае поступы, рабем іх і мы. Ці пасьля нас застанецца добры ці кепскі ўспамін — гэта залежыць ад таго, што мы зробім з прыдбаньнем нашых папярэднікаў і якую спадчыну перакажам наступнаму пакаленьню.

З гэткімі думкамі ў часе адзначэньня вялікіх гадавінаў і юбілеяў, зварачаемся да Вас, Усячэсныя Айцы й дарагія Браты й Сёстры! Узмацняйцеся Эвангельскаю Навукаю, разьвівайце паміж сабою любоў і пашану, а Супакой і Ласка Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста няхай будзе з усімі Вамі.

*Лета Божага 1973*
*м-ца жнівеня.*

**✠ Мітрапаліт Андрэй**
**✠ Епіскап Мікалай**



# СЬВЯТАЯ ЕФРАСІНЬНЯ-ПРАДСЛАВА

Сьвятая Ефрасіньня-Прадслава Полацкая жыла ў XII-ым сталецьці ў горадзе Полацку. Мы-ж жывём у XX-ым ст. у Злучаных Штатах Амэрыкі. Нас дзеліць 800 год у часе й тысячы міляў у прасторы, а лучыць нас журба пра культурнае разьвіцьцё й лёс таго самага беларускага народу.

Перш чым разглядаць ейны ўклад у культурную скарбніцу беларускага народу трэба ўспамянуць пра тагачасныя абставіны, у якіх Прадслава нарадзілася, жыла й працавала.

Тады калі сяньня характэрнай зьявай ёсьць разнагалосы гул машын, у Полаччыне XII ст. характэрным гукам быў разнагалосы гоман манастырскіх і царкоўных званоў.

Тады калі найбольш прыкметным зьявішчам сучаснага жыцьця ёсьць разьвіцьцё й бясконцая будоўля так званых "shopping centers", дзе адбываецца аснаўная функцыя сучаснага жыцьця дзеля заспакаеньня бясконцых матарыяльных патрэбаў, найбольш прыкметным зьявішчам тагачаснага Полацку былі будоўля й разьвіцьцё манастыроў і цэркваў, таксама свайго роду "shopping centers" — дзе людзі набывалі духовыя вартасьці — асновы маралі й асьветы.

Манастыр стаяў у цэнтры жыцьця. Ён адкрываў дарогу да шырокага дзеяньня. Манастыр быў першаю школаю граматы й пашыральнікам агульнае асьветы; там цэнтравалася перапісваньне кніг дзеля перахаваньня й перадачы веды й веры, навучаньне грамадзян, дапамога бедным і лячэньне хворых.

Акрамя таго, хрысьціянскі дух таго часу моцна адрозьніваўся ад хрысьціянскага духу нашай эпохі. Тады калі сяньня розныя веравызнаньні загубіліся й шукаюць дарогаў для палагоджаньня шматлікіх, а часта вельмі другарадных разыходжаньняў дагматычнага й арганізацыйнага парадку, Полацак таго часу быў у ахопе глыбокага й маналітнага энтузыязму ў прыняцьці й пашырэньні навукі Хрыста. Падзелу паміж Усходнім і Заходнім хрысьціянствам яшчэ не адчувалася. А вера была сьвежая й захапляючая, амаль што беспасрэдная.

Важным сацыяльным слоем тагачаснага грамдзтва былі князі. З такога княжага роду паходзіла Прадслава. Яна нарадзілася паміж 1104 і 1106 гадамі ў слаўным родзе Полацкіх князёў. З бацькавага боку яна





© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

была ўнучкай слаўнага Ўсяслава Чарадзея. І характар Прадславы моцна напамінаў ейнага дзеда сваёй рашучасьцю й станоўкасьцю.

Маці Прадславы паходзіла з роду бізантыйскіх імпэратараў Комнэнаў.

Гэты факт паходжаньня сьв. Ефрасіньні рабіў яе пазыцыю ў рэлігійным жыцьці вельмі ўплывовай і моцна дапамагаў як у мясцовых, так і ў замежных суадносінах Полацкай царквы й Полацкага княства з Бізантыяй і іншымі народамі.

З пункту гледжаньня сьвецкага чалавека Прадславе ня было патрэбы йсьці ў манастыр. Яна была багатая, прыгожая й маладая — усе відокі на тое, каб стацца шчасьлівай жонкай нейкага князя. І ўжо ў 12-ці летнім узросьце да яе прысылалі сватоў знатныя князі.

Аднак, Прадславу больш пацягвала кніга й асьвета, чымся замуж'е. Для пошукаў ведаў і веры, дзеля служэньня Богу й народу яна ўцякла ў манастыр ад раньняга сватаўства суседніх князёў. Маючы цётку ігуменяй манастыра, яна ведала, як гэтую мэту найлепш асягнуць.

А факт яе знатнага паходжаньня, і яе ўцёкаў з дому сьветчыць пра яе захапленьне асьветаю й Хрыстоваю навукаю.

Заслужылася яна ўжо будучы манашкай праз пасьлядоўную й незаганную вытрымку ў успрынятай форме жыцьця і ў адданай працы. Вялікую частку першых гадоў манастырскага жыцьця сьв. Ефрасіньня пасьвяціла паглыбленьню сваіх ведаў. Айцец Леў Гарошка заўважае ў сваёй кнізе пра сьв. Ефрасіньню, што „калі ў іншых краінах жанчыны даўгія стагодзьдзі аж да XIX в. мусілі змагацца за свае правы да асьветы, дык у нас ужо ў XII в. жанчыны здабываюць асьвету нароўні з мужчынамі".

Сьв. Ефрасіньня доўга не заставалася ў манастыры свае цёткі, а перайшла ў цэнтар Полацкага жыцьця, у найстарэйшую й найбагацейшую мураваную царкву — Сабор сьв. Сафіі, пабудаваную на верхнім замку стараньнем яе дзеда. Каля гэтай царквы гуртавалася рэлігійнае, культурнае й дзяржаўнае жыцьцё княства. Звон сьв. Сафіі зьбіраў Палачан на веча. Тут выбіраліся князі й тут яны прыймалі прысягу. Пры гэтай царкве знаходзілася вялікая бібліятэка. Адсюль пазычаліся шматлікія кнігі для перапісваньня.

Тут Сьв. Ефрасіньня атрымала невялікую кельлю, дзе яна занялася перапісаю кніг і вышыўкай аблачэньняў для цэркваў і манастыроў. Гэты этап у жыцьці сьвятое выглядае на этап падрыхтоўчы. Яна чытала, перапісвала й наглядала. Апрача перапіскі кніг, яна рабіла пераклады на родную мову з лацінскае й грэцкае, што сьветчыць пра яе шырокія веды. Некаторыя дасьледчыкі думаюць, што яна пісала свае арыгінальныя творы. Яна таксама вучыла грамаце іншых.

Пасьля гэтага падрыхтоўчага пэрыяду Сьв. Ефрасіньня на сваё жаданьне й па згодзе Епіскапа перайшла ў Сяльцо (недалёка ад Полацку) і пабудавала там жаночы манастыр Сьв. Спаса на епіскапскай зямлі й стала яго ігуменяй.

Спасаўскі манастыр стаўся сталым месцам прабываньня Сьв. Ефрасіньні й выхадным пунктам яе дзеяньня.

Тут Св. Ефрасіньня згуртавала вакол сябе іншых князёўнаў Полацкіх — сваю сястру Градзіславу й яшчэ некалькі сваіх маладых сваячніц. Гэты мамэнт уступленьня маладых князёўнаў у манастыр характэрны для таго часу. Першым фактарам, як ужо зазначалася, быў агульны дух эпохі. Кажная эпоха ёсьць характэрная нейкімі вядучымі ідэямі й ідэаламі. Ідэалам таго часу была служба царкве й Богу, так як у нашыя часы была плынь сярод моладзі — службы сусьветнаму супакою.



Другім мамэнтам быў той факт, што манастырскае жыцьцё давала больш самастойнасьці, чымся становішча жонкі.



*Ікона Сьв. Ефрасіньні з XV веку*

Трэйцім і галоўным фактарам была прыцягальная асоба Сьв. Ефрасіьні вакол якой гуртавалася рэлігійнаё жыцьцё, дзе тварыліся культурныя ўплывы. Думаюць, што адсюль выходзілі таксама паважныя ўплывы дзяржаўнага характару. Палітычныя-ж абставіны таго часу — захоп Полаччыны кіеўскімі князямі й высланьне полацкіх князёў у Канстантынопаль — спрычыніліся, як сьветчаць гісторыкі, да таго, што некаторы час Полацкім Княствам кіравалі княгіні, і ўспамінаюць пры гэтым імёны князёўны Прадславы-Ефрасіньні й яе маці Сафіі.

Ведама, што Прадслава вяла шырокую карэспандэнцыю з Бізантыяй і іншымі краінамі. Яна карысталася асаблівай пячаткай для сьцьвярджаньня дакумэнтаў. Яна палагоджвала сваркі між Полацкімі князямі. Манастыр Св. Спаса быў галоўным цэнтрам Полацкага жыцьця за часоў Св. Ефрасіньні.

Стары дрыўляны манастыр і царква сталіся замалымі для ўжытку. Захадамі Прадславы новая мураваная царква была пабудавана за 30 тыдняў, нягледзячы на тое, што мулярства было новай тэхнікай на Беларусі. З пабудовай гэтае царквы зьвязана імя будаўніка Івана Полацкага, а сама царква была добрым прыкладам мясцовага будаўніцтва. Гэта быў арыгінальны мясцовы твор, без капіроўкі чужых стыляў. Сьцены Спасаўскай царквы сягалі амаль двухмэтровай таўшчыні. Унутры яны былі пакрыты шматлікімі малюнкамі-фрэскамі. Асьвячалі царкву недзе перад 1128 г. І так паўстаў з ініцыятывы й намаганьня Сьв. Ефрасіньні першы нацыянальны архітэктурны будынак, як прыклад мясцовага будаўніцтва.

Хутка пасьля заканчэньня царквы Св. Спаса стараньнем Сьв. Ефрасіньні была выбудавана царква Прасьвятое Багародзіцы каля якой заснаваўся мужчынскі манастыр.

Для новых манастырскіх цэркваў ігуменьня Ефрасіньня пачала зьбіраць розныя сьвятасьці. З гэтай мэтай яна паслала манаха Міхася ў Бізантыю да імпэратара Мануіла Комнэна з просьбай прыслаць Полацку ікону Божае Маці. Яна атрымала ікону Царгародзкую (не Эфэскую, як яна прасіла) і шмат іншых сьвятасьцяў, паміж імі дрэва ад Крыжа Хрыстовага.

Для перахаваньня гэтых сьвятасьцяў яна замовіла крыж, які сяньня завём крыжам сьв. Ефрасіньні. Для выкананьня гэтага крыжа, яна, ўзноўжа, заклікала мясцовага мастака Лазара Богшу. Форма крыжа ёсьць



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

асаблівая й адменная — тая самая форма, што шырака распаўсюджана на так званых Барысавых камянёх.

Крыж мае шасьціканцовую форму. Вялічынёю ён 51 см. і выкананы з срэбра, золата й дарагіх каменьняў. Па бакох крыжа знайходзіцца напіс у царкоўна-славянскай мове — закляцьце каб ніхто ня вынес крыжа з царквы.

Пры канцы ручкі на крыжы быў наступны напіс: „Господи помози рабоу своему Лазорю нареченомоу Богъши, съделавъшемоу крьстъ сии црькви Святаго Спаса и Офросиньи.

Так як і пры пабудове царквы, Сьв. Ефрасіньня зьвярнулася да мясцовага мастака, і ў ягонай рабоце мы знаходзім доказ таго, што Полацкія мастакі былі добра азнаёмленыя з бізантыйскай мастацкай тэхнікай, але карысталіся ёю для выконваньня твораў у сваёй Полацкай традыцыі.

І тут вялікая заслуга Сьв. Ефрасіньні ў яе падтрымцы мясцовых талентаў.

У хуткім часе Сьв. Ефрасіньня задумала падарожжа ў Сьвятую Зямлю. І як гэта заўсёды было ў яе характары, што яна задумала тое й выканала. Зь ёй паломнічалі яе брат Давід і стрэчная сястра Еўпраксія. І ехалі яны не па вадзе, а сухапуцьцем. Падарозе заехалі ў Бізантыю, а адтуль у Ерусалім. Тут Сьв. Ефрасіньня захварэла й памерла, як прынята ўважаць, 23 травеня 1173-га году.

Спачатку яна была пахавана ў Ерусаліме, але калі туркі занялі Сьвятую Зямлю, манахі перавезьлі цела яе ў Кіеў у 1187 г. І толькі у 1910 г. перанесьлі цела яе ў родны Полацак. Дзе яно цяпер няведама, так як няведама, дзе ейны крыж.

Хутка пасьля сьмерці яна была прызнана сьвятою на Беларусі і ў Ерусаліме. Расея прызнала яе сьвятою толькі ў XVI ст.

Кажны народ мае сваіх улюбленых патронаў-апякуноў. Францыя мае сваю слаўную Жанн Д'Арк, сымбалем якой быў меч, бо змагалася з мячом за сваю краіну. Сымбалямі нашай Сьв. Ефрасіньні ёсьць крыж — сымбаль веры, і лілеі — сымбаль нявіннасьці й любові.

Яе жыцьцё ня было трагічным, але яно было пасьлядоўна дабрадзейна-плённым. Нацыянальныя абставіны часта абумоўліваюцца адзінкамі, і такой вядучай адзінкай была Ефрасіньня. Да ейных шматлікіх заслугаў належыць пашырэньне асьветы й веры, дагляд хворых і бедных, палагоджаньне князёўскіх непаладак, будова манастыроў і цэркваў, разьвіцьцё мясцовага мастацтва, шырэньне славы Полацку.

Яе першы жыцьцяпіс быў напісаны летапісцам Полаччыны ў XII веку, які кажа: „Якою моваю, браты, належыцца нам усхваляць сьветазарную памяць прападобнае нявесты Хрыста Ефрасіньні: Яна-ж была памочніцай пакрыўджаных, сумуючым пацеха, згалелым адзявальніца; проста кажучы ўсім усё была. Сэрца сваё Ефрасіньня паіла Боскаю мудрасьцю. Ефрасіньня — кветка з райскага саду, што ніколі ня вяне. Ефрасіньня — небаўзлётны арол, які пралятаў ад захаду да ўсходу й як сонечны прамень прасьвятляў усю Полацкую зямлю... Маліся, Прападобная, за грамаду сваю да Бога, бо Яму належыцца ўсякая слава, чэсьць і пакаленьне.

І хачу закончыць словамі нашага сучасніка з Савецкай Беларусі — паэта Алеся Звонака:

**Галіна Русак**





*Уладзімір Шыманец. Адтварэньне Сафійскага Сабору ў Полацку*

**ЦЕНЬ ЕФРАСІНЬНІ**

По руінах разбураных кельляў,
Там, дзе зеўраюць з трэшчын вякі,
Я спускаўся ў твае падзямельлі,
І спалохана ў пальцах трымцелі
Сьвечак доўгія языкі...
Пачарнелыя сьцены скляпеньняў,
Лабірынты бясконцых хадоў
Праглыналі дрыготкія цені...
Быў як мудрасьці сімвал нятленны —
Сьцёрты надпіс далёкіх гадоў.
Сустракалі няветліва госьця,
Не ўставалі з сатлелых грабніц
Мудрых продкаў пажоўклыя косьці...
А жылі-ж, праклінalі кагосьці
Перш чым пасьці, закутымі, ніц!
Пахла воскам у прыцемку сінім
І здавалася: з дна тайнікоў
Сьвецяць вочы Вялікай Княгіні...
Гэта здань твая, Ефрасіньня,
Мільганула з глыбінь вякоў!

(Даклад чытаны на сьвяткаваньні 800-лецьця ад сьмерці Сьв. Ефрасіньні).



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ Й ІХ ЛЁС

(Паводля: — М. І. Ермаловіч. „Помнікі гісторыі й культуры Беларусі" . Год. 1970, № 4).

Усвой час Максім Багдановіч не выпадкова адкрыў паэтычную нізку „Старая Беларусь" вершам „Летапісец". Заглянуўшы праніклівым позіркам мастака ў глыбокую старажытнасьць роднага краю, ён перш за ўсё ўбачыў тыповую на той час высакародную постаць летапісца, які, апавядаючы пра тое — „Што тут чынілася у даўныя гады, што думалі, аб чым спрачаліся тады, за што змагаліся, як баранілі веру" — самааддана зьберагаў народу найвялікшы скарб — яго гісторыю. Сапраўды, летапісаньне было найважнейшай зьявай культурнага жыцьця Беларусі з XII па XVIII ст., і таму летапісы — найбольш разьвіты жанр старажытнай беларускай літаратуры. Але, на вялікі жаль, многія з гэтых бясцэнных памятак нашай мінуўшчыны напаткаў нешчасьлівы лёс, і яны не дайшлі да нас. Гэта ў першую чаргу датычыцца летапісаў XII-XIII ст.ст., якія пісаліся ў Полацку, Наваградку й, магчыма, у іншых старажытных гарадох Беларусі.

Тое, што ў Полацку, пачынаючы з XII ст. вялося сваё летапісаньне, — бясспрэчны факт. Угэтым зыходзяцца ўсе дасьледчыкі. З гістарычных крыніц вядома, што ў 1579 г. у Полацку было знойдзена шмат летапісаў. Адзін з тых сьпісаў Полацкага летапісу захаваўся яшчэ ў XVIII ст. Яго чытаў і зрабіў з яго шэраг каштоўных выпісак рускі гісторык В. Тацішчаў (Історыя Расійская. т. II, стар. 133, 135; т. III, М.-Л., 1964, стар. 69). Але гэта не адзінае, што захавалася ад Полацкіх летапісаў. Як пераканаўча паказалі дасьледчыкі (В. Т. Пашуто. Образование Литовского Государства. М., 1959, стар. 14-15), паасобныя ўрыўкі з іх — 1151, 1159, 1162, 1167, 1180 г.г. — увайшлі ў агульнарускія зводы (з расейскага — „своды" — Рэд.), у прыватнасьці, у Іпацьеўскі летапіс (Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). т. II, 1962, стар. 394, 493-496, 519, 526, 527, 620). Нягледзячы на сваю фрагмэнтарнасьць, яны побач зьвестак іншых летапісаў, таксама несыстэматычных, даюць усё-ж яскравае ўяўленьне аб гісторыі Полацкага княства.

Узьнікшы яшчэ ў IX ст. на невялікай тэрыторыі па Заходняй Дзьвіне, гэтае княства ўвесь час пашырала свае межы і ў канцы IX ст. займала большую частку сучаснае тэрыторыі Беларусі. Разьмешчаная на скрыжаваньні важнейшых гандлёвых шляхоў, Полаччына эканамічна ўздужэла й абагнала ў сваім разьвіцьці іншыя рускія землі. Як адзначае Л. Алексееў, Полацкае княства было „найбольш самастойнай палітычнай адзінкай старажытнай Русі" (Полацкая зямля. М., 1966, стар. 220). У пачатку XII ст. паміж удзеламі княства ўзьнікае міжусобная барацьба, што дасягнула, як сьветчыць летапіс, найбольшай вастрыні ў 50-60 гг. XII ст. (ПСРЛ. т. II, стар. 394, 493 — 496, 519, 526, 527 і інш.). Аднак гэта была не сэпаратная барацьба за выхад з Полацкае зямлі, а барацьба за пяршынство ў ёй, якое менскія князі сталі аспрэчваць у полацкіх.

Летапіс шырака й дэталёва адлюстраваў гэтую поўную драматызму працяглую барацьбу. Нейкі час здавалася, што менскія князі возьмуць верх: у 1167 г. адзін зь іх, Валадар Глебавіч, захапіў Полацак. Аднак полацкі князь Усяслаў Васількавіч, дзякуючы дапамозе Смаленска, вярнуў сабе Полацак (ПСРЛ., т. II, стар. 526-527). Такім чынам, полацкія князі выйшлі пераможцамі ў барацьбе за пяршынство. З гэтага часу міжусобіцы ў Полацкай зямлі паступова заціхаюць. Летапіс сьведчыць, што адзінства Полацкай зямлі выразна праявілася ў 1180 г., калі ў паходзе на Друцк, які трапіў пад уплыў Смаленска, удзельнічалі ўсе шэсьць полацкіх князёў. У выніку гэтага паходу быў зноў вернуты Полацкай зямлі Друцк, што пацьвярджае летапіснае паведамленьне пад 1195 г., калі сярод полацкіх князёў, якія хадзілі на Смаленск, быў і друцкі князь (ПСРЛ., т. II, стар. 620, 147-148).

Калі ў сярэдзіне XIII ст. утварылася Вялікае Княства Літоўскае, у ім таксама пачало весьціся летапісаньне. Як вядома, першай сталіцай гэтае дзяржавы быў Наваградак. Недалёка ад яго, на беразе Нёмана, каля 1262 г. быў заснаваны Лаўрышаўскі манастыр, які адыграў выключную ролю ў пашырэньні асьветы ў беларускім Панямоньні. У гэтым манастыры былі створаны выдатныя помнікі беларускай культуры, у прыватнасьці, Лаўрышаўскае Эвангельле, на вокладцы якога быў зьмешчаны партрэт заснавальніка манастыра, наваградзкага князя Войшалка. Як слушна мяркуе гісторык У. Ц. Пашута, у Лаўрышаўскім манастыры й пачаў весьціся летапіс Вялікага Княства Літоўскага (В. Т. Пашуто. Образ. Литовского госуд., стар. 42). Але ён, як і Полацкі летапіс, поўнасьцю не дайшоў да нас, а, паводле сьведчаньня таго-ж У. Пашуты, паасобнымі фрагмэнтамі захаваўся ў Галіцка-Валынскім летапісе. Для нас асаблівую каштоўнасьць маюць якраз тыя фрагмэнты Лаўрышаўскага летапісу, у якіх апавядаецца пра Міндоўга й яго сына Войшалка, пра Траняту, Таўцівіла ды іншых гістарычных асоб (ПСРЛ., т. II, стар. 858-861, 862, 864, 868). Разам са зьвесткамі Галіцка-Валынскага летапісу гэтыя дакумэнты паказваюць, што да XIII ст. на тэрыторыі Беларусі склалася новая гістарычная вобласьць — Навагародзкая зямля, якая атрымала назву ад свайго цэнтру Навагародка, як тады называўся Наваградак. Па сваім эканамічна сацыяльным разьвіцьці яна выйшла на першае месца сярод іншых беларускіх земляў і таму стала ў сярэдзіне XIII ст. цэнтрам іх паступовага аб'яднаньня. З гэтага-ж летапісу вынікае, што пад Літвой у XIII ст. разумелася ня сучасная Літва, а частка тэрыторыі сучаснай Беларусі прыблізна ў абшары паміж Менскам і Наваградкам — з усходу на захад — і паміж Маладзечнам і Ляхавічамі — з поўначы на поўдзень (Тэзісы дакладаў да археал. канфэрэнцыі Беларусі. Інстытут гісторыі АН БССР. Мінск, 1969, стар. 233-238).

У гістарычнай літаратуры можна прачытаць, што ў 30-40 гг. XIII ст. (дакладная дата не паказваецца) літоўскі князь Міндоўг падначаліў сабе Наваградак, Слонім, Ваўкавыск і іншыя гарады (Советс. истор. энциклопед., т. 9, М., 1966, стар. 461). Аднак летапіс не пацьвярджае гэтага. Летапіс гаворыць, што Міндоўг не Наваградак, а „Літву заня" (ПСРЛ., т. II, стар. 815).

Далей аўтар Ермаловіч выказвае, відочна, свае меркаваньні пра паходжаньне Міндоўга. Нібы ў выніку змаганьня літоўскіх „феадалаў", пацярпеўшы паражку, Міндоўг зьбег у суседні Наваградак. Але-ж тая Наваградзкая зямля й была якраз тою успомненаю вышэй Літвою. Выглядае, што Міндоўг з Літвы ў Літву перабег?... Як утварылася Літоўскае гаспадарства, ці княства, адкуль пайшла гэтая назва і хто быў Міндоўг, — пытаньне астаецца нявысьветленым, хаця-ж аўтар заэначае: „Так Лаўрышаўскі летапіс паказвае праўдзівую карціну ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага, і ў гэтым яго найбольшая каштоўнасьць".

Больш пашчасьціла беларускім летапісам XIV-XVIII ст.ст. Яны дайшлі да нас у шматлікіх сьпісах і былі зьмешчаны ў XVII томе Поўнага збору




© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

рускіх летапісаў, выдадзенага ў 1907 г. пад рэдакцыяй акадэміка А. А. Шахматава. У дарэвалюцыйнай навуцы гэтыя летапісы называліся заходнярускімі ці літоўскімі. Аднак у сучаснай навуцы іх прынята называць беларуска-літоўскімі, што больш правільна, бо ў іх расказваецца аб Вялікім Княстве Літоўскім — дзяржаве беларусаў і літоўцаў; летапісы ў пераважнай большасьці створаны на беларускай зямлі, і ўсе яны напісаны на старажытнай беларускай мове. Раней вучоныя падзялялі гэтыя летапісы на тры рэдакцыі: кароткую, пашыраную й поўную. У сучаснай навуцы зроблена спроба падзяліць беларуска-літоўскія летапісы на I, II і III зводы (В. Чамярыцкі. Беларускія летапісы, як помнікі літаратуры. Мінск, 1969. стар. 13-28). Як у свой час адзначаў гісторык М. Грушэўскі, цэнтрам беларускага летапісаньня ў XV ст. быў Смаленск, што пацьвярджаюць і сучасныя дасьледчыкі (В. Чамярыцкі. Бел. лет., стар. 114-125). Тут і ўзьнік Смаленскі звод 1446 г. — выдатны гістарычны помнік, праз які праходзіць ідэя абароны агульнадзяржаўных інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага.

Трохі іншы характар маюць летапісы XVI ст., і гэта было вынікам тых зьменаў, якія адбыліся ў дзяржаве. Згодна з Крэўскай вуніяй (1386) большыя правы набылі літоўскія магнаты-каталікі...

Тут зноў пачынаюцца разважаньні аўтара: нібы ў выніку войнаў Літоўскага Княства з Масквой пачалі ўзвышацца літоўскія феадалы-каталікі, падтрыманыя каталіцкай царквой, а „беларускія феадалы паступова страчвалі сваё пануючае становішча”. Аж, нарэшце, „жамойцкія феадалы вырашылі перапісаць гісторыю Вялікага Княства Літоўскага й прысвоіць сабе галоўную ролю ў яго стварэньні”. Але чаму-ж яны не перапісалі на тую „літоўскую” ці жамойцкую мову? І чаму не пададзена хоць колькі прозьвішчаў жамойцкіх на кіраўнічых становішчах Вялікага Княства Літоўскага? І тыя „літоўскія феадалы”, ці яны былі праваслаўныя, ці потым пераходзілі ў вунію ці ў каталіцтва, — гэта былі Беларусы. Як відаць, гэтая блытаніна паходзіць ад таго, што дасьледнікі летапісаў, як наагул, і гісторыкі, асабліва падсавецкія, ніяк ня могуць, ці ня хочуць, утрапаваць таго, што слова „Літоўскі” адносілася як да тэрыторыі, заселенай Беларусамі, так і да народу беларускага. Гэта-ж відаць і з княжыцкага тытулу: Вялікі Князь Літоўскі, Рускі, Жамойцкі”... ды інш. Нашто-ж было-б патрэбнае слова „Жамойцкі”, калі-б Жамойць звалася Літвою? Датаго-ж Жамойць і далучаная была да Княства Літоўскага шмат пазьней. А „Рускі” адносілася да тэрыторыі й народу украінскага. Яшчэ за памяці нашых бацькоў за ўсходняю мяжою Княства Расейцы звалі нашых людзей Літвінамі. Зьмену даўнейшага назову й прыляпляньне яго да Жамойці, як відаць, зрабілі ўжо пазьней расейскія гісторыкі з дапамогаю польскіх, — кожны ў сваіх імпэрыялістычных мэтах.

Далей працягвае аўтар.

Так пачалі ў адпаведнасьці з гэтым апрацоўвацца летапісы XVI ст. (Хроніка Вялікага Княства Літоўскага й Жамойцкага” і „Хроніка Быхаўца”). Менавіта ў гэтых летапісах пачало сьцьвярджацца, што Літоўская дзяржава й яе вялікія князі пайшлі ад Жамойці (заходняя частка сучаснае Літвы), што не Наваградак заваяваў Літву, а жамойцкія князі пасьля татарскага пагрому занялі Наваградак, а пасьля й Полацак. Так зьявіўся міф аб літоўскім заваяваньні Беларусі. Такім чынам, у гэтых летапісах у значнай ступені сфальсіфікавана гісторыя Беларусі. Аднак гэта адносіцца толькі да першапачатковай гісторыі, увогуле-ж гэтыя летапісы, асабліва Хроніка Быхаўца, маюць найбагацейшы матарыял з гісторыі Беларусі й Літвы да 40-х гг. XVI ст.

З летапісаў XVI ст. заслугоўвае ўвагі Баркалабаўскі летапіс, які пісаўся ў сяле Баркалабаве на Магілеўшчыне з 1562 г. па 1608 г. Рукапіс яго захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музэі ў Маскве, у зборніку Маскоўскай сінадальнай бібліятэкі пад № 790. З яго было зроблена тры публікацыі: П. А. Куліш у 1877 г., В. В. Даўнар-Запольскі ў 1898 і Е. Р. Раманаў у 1910 г. Каштоўнасьць летапісу перш за ўсё ў тым, што ў ім даюцца яркія карціны жыцьця й побыту народу, напісаны ён жывой беларускай мовай таго часу й мае ня толькі пазнавальнае, але й мастацкае значэньне.

У XVII-XVIII ст.ст. беларускае летапісаньне паступова траціць сваё значэньне й адмірае.

Летапісы — найкаштаўнейшыя помнікі нашай гісторыі й культуры. На жаль, яны ня сталі пакуль што аб'ектам уважлівага навуковага дасьледаваньня. Толькі ў самы апошні час зьявілася згаданая вышэй кніга В. Чамярыцкага, у якой беларускія летапісы XV-XVII ст.ст. разглежданы як помнікі літаратуры. У многіх выпадках летапісы — адзіныя сьведкі нашай мінуўшчыны, і іх запісы перш за ўсё павінны брацца пад увагу, што не заўсёды бывае, у прыватнасьці, пры асьвятленьні гісторыі Полацкай зямлі ў канцы XII ст. і Вялікага Княства Літоўскага. Неабходна ўдакладніць фрагмэнты Полацкага й Лаўрышаўскага летапісаў у іншых зводах і падумаць, ці нельга іх рэканструяваць. Ня выключана, што дзесьці ў нашых або зарубежных архівах захоўваюцца дасюль невядомыя беларускія летапісы. Магчыма, што не загінуў і можа быць адшуканы той сьпіс Полацкага летапісу, якім карыстаўся В. Тацішчаў.

Ранейшыя адзінкавыя выданьні беларускіх летапісаў даўно ўжо сталі бібліяграфічнай рэдкасьцяй. Таму насьпела пара перавыдаць беларускія летапісы. Сюды-ж трэба ўключыць і тыя ўрыўкі з іншых летапісаў, якія датычаць гісторыі Беларусі.

**М. І. Ермаловіч**

---

# ХРЫСЬЦІЯНСТВА Й БАЛЬШАВІЗМ

Побач шматлікіх, можна сказаць, нязьлічоных праблем у так званым Савецкім „Саюзе”, паўсталых і паўстаюных усьцяж з самой сутнасьці бальшавізму, — адна з найбольшых і, пэўна-ж, найцяжэйшая, гэта барацьба з хрысьціянствам. З хрысьціянствам перадусім, таму што ўсе народы, акелзаныя бальшавікамі, за малым вылучэньнем, вызнаюць рэлігію хрысьціянскую, і таму што хрысьціянства — рэлігія найважчэйшая й найбольш пашыраная. Непраўдзіва называць бальшавіцкую акцыю барацьбы з хрысьціянствам супрацьрэлігійнай акцыяй. Бо прычына гэтае барацьбы мае рэлігійную ахварбоўку: веру ў той уяўны бальшавіцкі камунізм і ў яго заканадаўцу — зямнога бальшавіцкага бажка Леніна.

Шмат хто, неабазнаны ці слабаабазнаны з навукай і дзейнасьцяй Леніна, заве яго геніяльным. Калі-б можна было назваць лгуна, манюку, кансьпіратара, правакатара й людагубцу геніем, то гэта была-б праўда. Уся ягонная „навука” базуецца на ілжы. Гэта была перадусім прапаганда, хітрая й спрытная, прыкрытая рознымі навуковымі тэрмінамі й тэзісамі й адначасна прыпраўленая чалавеканенавісьніцкім ядам. Лгаў ён і пра рэлігію, калі пісаў у артыкуле „Пра адносіны рабочай партыі да рэлігіі”, што „барацьбу з рэлігіяй трэба паставіць у сувязь з пэўнай практыкай



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

клясавага руху, з мэтай ліквідацыі сацыяльных карэньняў рэлігіі". Што то за „практыка клясавага руху" — гэта выявілася ў Ленінскай дзяржаве ў выніку дзейнасьці ЧЭКА-НКВД, калі было выгублена дзясяткі мільёнаў добрых людзей. Ня быў Ленін настолькі наіўны, каб думаць ці верыць, што „карэньні рэлігіі" ў клясавай няроўнасьці. Але яму трэба было зьвязаць рэлігію з клясавай барацьбой і „клясавай нянавісьцяй", каб стварыць большы накал дзеля руйнаваньня рэлігіі, паўтараем — перадусім хрысьціянскай, бо яе Ленін заўсёды меў на ўвазе. Устанаўляючы лад, апёрты на ілжы й фізычнай брутальнай сіле, Ленін думаў паканаць хрысьціянства таксама фізычным здушэньнем: вымардаваньнем сьвятарства й зруйнаваньнем сьвятыняў. Загады яго былі жорсткія, бязьлітасныя й бесчалавечныя. Колькі ад іх пралілося крыві й загублена людзей, як-то кажуць, „Толькі Ты, Госпадзе, ведаеш". Колькі зруйнавана сьвятыняў — гэта можна-б і падлічыць, але хто адважыцца пад бальшавіцкай уладай?

Бадай усе сацыялістычныя тэорыі ў сваіх праграмах ставяць аддзяленьне Царквы ад Гаспадарства. Ленін гэтага не зрабіў, але налажыў кайданы на Царкву й не пакінуў у супакоі рэшткі сьвятарства, а таксама й вернікаў і пасьля фізычнага пагрому.

Ленін пакінуў па сабе ЧЭКА, якое ўсьцяж мяняе назоў, але сутнасьць астаецца тая самая, ілжывы агітпроп, які вырас ужо ў нейкую мітычную пачвару, як тое „чудішчэ обло, озорно і лаяй", тую сваю „клясавую" чалавеканянавісьць і запавет барацьбы з хрысьціянствам. Прайшло паўсталецьця. За гэты час, ужо, відаць, па-за Ленінскай навукай, але ад якогась іншага „генія", паўстала новая ўстанова — псыхіятрычныя заклады да ўпраўляньня мазгоў , як гэта іх найчасьцей называюць. Гэтая шатанская выдумка маніцца ўбіць у людзкую сьведамасьць, што пасуджаць, працівіцца й ня верыць бальшавізму й яго будучаму камунізму, калі будзе „кажнаму паводля патрэбы", можа толькі хворая галава, а здаровая мусіць верыць агітпропу й яго бацьку Леніну. Аднак-жа, наяўнасьць — вынік гаспадараньня бальшавікоў за звыш паўсталецьця, прамаўляе звычайнаму чалавеку мацней за ўсю гэтую ленінскую круцельскую спадчыну. Досыць прыгадаць тую галадоўлю, якая трывае ўвесь час трываньня бальшавізму, і той факт, што дыктатарам бальшавіцкім давялося ехаць жабраваць да тых, каго яны маюць „угробіць", каб выенчыць затанна хлеба, — і ўсе захады агітпропу, таксама й супрацьхрысьціянская агітацыя зводзіцца ў нішто. Ленін вучыў, крычаў, што хрысьціянства й Царква падтрымлівае багацейшыя клясы на шкоду працоўным. Цяпер-жа бальшавіцкія заправілы, пры ўсёй сваёй наглоце, ня могуць ставіць хрысьціянам гэтага закіду, бо багацейшай клясай сталі яны самі з сваімі „вернікамі".

Цяпер бальшавікі ўжо ня крычаць пра „рашучы бой" рэлігіі, а вельмі часта засьцерагаюцца, што справа змаганьня з рэлігійнымі „прэдразсудкамі" не такая простая, як раней здавалася. І намагаюцца ставіць гэтае змаганьне на грунт „навуковы", хоць навука тая, запраўды толькі сьмеху варгая. Але дзеля гэтага адчыняюцца адмысловыя вучэльні супрацьрэлігійнага агітпропу, — розныя інстытуты, сэмінары, розныя таварыствы, гурткі. Але-ж і ніводная іншая вучэльня, так як і розныя прадпрыемствы ня вольныя ад абавязку супраць хрысьціянскай акцыі. Мала-ж гэтага, — лезуць у сямейнае жыцьцё, забараняюць бацьком узгадоўваць дзяцей у рэлігійным духу. І гэтага мала, — намагаюцца „абрабляць" кажнага паасобнага чалавека, стараючыся убіць у галаву веру ў бальшавізм і Леніна і ўняважніць веру ў Хрыста.



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

У Істамбуле памёр на 70-м годзе жыцьця мітрапаліт Мікалай, які ў часе мінулых выбараў Усяленскага Патрыярха быў другім з чаргі кандыдатам на Патрыяршы Прастол.

---

Усталіць наяўны рэлігійны стан у СССР, бязумоўна, немагчыма. Ніякія апытальнікі, анкеты праўды не пакажуць, бо ніводзін хрысьціянін ня будзе лічыць грэхам даваць непраўдзівыя адказы; а не сказаць праўды — на гэта ёсьць шмат прычын. Бо хоць улады савецкія нібы хочуць аперціся на навуку пра тое, чаго самі ня ведаюць, бо ня могуць ведаць, і тая іхная навука ніякае вагі ня мае, то ад фізычнага ўзьдзеяньня: гнобленьня, зьдзеку, арыштаў, ссылак праторанаю ўжо дарагаю ў розныя канцэнтрацыйныя лягеры, а таксама ад запраторваньня ў тыя спэцыяльныя псыхіятрычныя заклады — не адмаўляюцца.

Бальшавікі вінавацяць хрысьціянства ў тым, што яно перашкаджае ўзгадоўваньню таго „савецкага чалавека" і ўсталеньню „камуністычнага ладу". Агульна кажучы, сумлеўна ці хоць адзін сацыялістычны тэарэтык выразна ўяўляў сабе таго „новага чалавека", узгадаванага на матэрыялізьме. Тымбалей не ўяўляюць яго цяперашнія тупагаловыя практыкі бальшавізму, так як і не ўяўляюць таго камунізму, дзе будзе „кажнаму паводля патрэбы", — а гэта адна з найдурнейшых хімераў ленінізму. Ідучы да гэтага неакрэсьленага й, бязумоўна, недасяжнага камунізму, бальшавікі ўсьцяж практыкавалі людагубства, паказваючы на некіх „ворагаў народу". Цяпер гэтымі „ворагамі народу" для іх сталіся хрысьціяне. Праз паўсталецьце бальшавікі зразумелі, што „барацьба з рэлігіяй — справа не такая простая". Дык у гэтую барацьбу стараюцца ўцягваць якмага больш людзей ды мацней актывізаваць іх на змаганьне. Аднак, у гэтай актывізацыі ўжо вычуваецца й страх. Страх тымбольшы, што на масовае фізычнае вынішчэньне ўжо не адважацца. Страх гэты йдзе не ад цяперашняй афіцыйнай царквы Маскоўскай, зьверхнасьць якое, Маскоўская Патрыярхія, падпарадкаваная толькі бальшавіцкай уладзе й не прызнае зьверхніцтва Ўсяленскае Патрыярхіі, але ад хрысьціянства сукрытага, падаўнейшаму — катакомбнага. А лічба гэтых хрысьціян невядомая. Бо нельга паставіць нейкае таўро на кажным хрысьціяніне, як некалі пры Ірадзе таўравалі дамы, дзе было нованароджанае. І страх нарастае ў выніку марнасьці надзеі на ліквідацыю хрысьціянства, а таксама ў няпэўнасьці й абсурдальнасьці гадаваньня таго савецкага чалавека-камуніста. Адмаўляючы-ж чалавеку духоўнае жыцьцё й любоў, а ўзгадоўваючы яго на матарыялізьме — гэта мусіў-бы быць зьвер, толькі двуногі. Мог-бы захавацца й назоў — бальшавік, — але назоў — чалавек — адпаў-бы. На жаль, у чалавеку ёсьць яшчэ шмат зьвярынага. На гэтай зьвярынай частцы натуры чалавека Ленін заклаў базу бальшавізму. Яна аказалася не такой слабой, як гэта некаторыя меркавалі ў часе закладзін. Але бальшавізм, закладзены на ёй, дастаткова ўжо выказаўся, як сыстэма нялюдзкая, якая вядзе да пагаршэньня людзкога быту, як духовага, так і матарыяльнага. І рэлігія хрысьціянская, ці якая іншая, што ўважае чалавека за асобу адухатвароную й кладзе ў аснову ўзгадаваньня чалавека любоў, — як адвяла чалавека ад зьвера, так і не дапусьціць чалавека вярнуцца да зьвера.

**С-кі**



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# ДВА ГАЛАСЫ ПРА ЦАРКВУ У БССР

## I. СЬВЯТА ВЯЛІКАДНЯ Ў СЛУЦКУ

У Слуцку на Востраве (частка места, што некалі лічылася прадмесьцем) стаіць дрыўляны храм — Сьвята-Міхайлаўская Царква. У архітэктурнай форме гэта кампазыцыя ў выглядзе трох ярусаў. Царква становіць помнік архітэктуры XVII веку і ўзята пад ахову дзяржавы.

У гэтым старадаўным храме адпраўляюцца ў нядзелі й сьвяточныя дні Багаслужбы (у арыгінале з малой літары — Рэд.) і ў кажным дні задавальняюцца трэбы вернікаў. З асаблівым рэлігійным пачуцьцём прыхаджане рыхтаваліся да сьвята сьвятое Пасхі. Шматлікія праваслаўныя хрысьціяне ў дні вялікага посту наведвалі свой прыходзкі храм і прысутнічалі на вялікапосных Багаслужбах.

І вось настае Вялікодная ноч. У храме й навокал яго шмат народу. Усе прышлі пачуць радаснае „Хрыстос Уваскрос" і асьвяціць традыцыйнае чырвонае яйцо.

Памятаючы пра старадаўнасьць сьвята Міхайлаўскага храму, мімаволі ўсплывае думка: ў каторы-ж раз тут праслаўляюць радаснае сьвята Слуцкія трудзягі, далёкія продкі якіх пабудавалі гэты храм.

**Пратайерэй Кульчыцкі,** настаяцель
Сьвята-Міхайлаўскай Царквы.

---

Пераклад з расейскае мовы. Узята з „Голасу Радзімы", №20, май 1973 г., — газэты прызначанай на экспарт з БССР у Заходні сьвет.

## II. „ПАТРЭБНЫ ДАКЛАДНЫЯ АЦЭНКІ"

**Рэд.** З гэтага артыкулу зроблены выпіскі, сказаць так — квінтэсэнцыя аўтара, кагось Абэцэдарскага. Выпіскі перакладзены з расейскай мовы.

---

Царква — зьлюшчы вораг навукі й асьветы. Вымыслы царкоўнікаў часам пранікаюць у нашую гістарычную літаратуру. Напрыклад, у некаторых манаграфіях і падручніках сярэднявяковыя манастыры характарызуюцца як „цэнтры навукі таго часу", „цэнтры асьветы й культуры"... Сваіх „сьвятых" і багасловаў царкоўнікі паказваюць вучонымі, прасьветнікамі. Прыкладам можа быць „сьвятая" Еўфрасіньня Полацкая. Гісторыкі й літаратуразнаўцы бяз ніякіх агаворак называюць Еўфрасіньню Полацкую асьветніцай, выдатнай дзяячкай культуры й прыпісваюць гэтай „сьвятой" ніколі неўласьцівую ёй ролю. Яны ўводзяць у блуд чытачоў якія ўспрыймаюць гэтыя характарыстыкі ў простым іх значаньні, хаця-ж у запраўднасьці дзейнасьць Еўфрасіньні Полацкай была варожая запраўднай навуцы й запраўднай асьвеце.

Як відаць, гэтак сама ўспрыняла гэтыя характарыстыкі й маладая пісьменьніца Вольга Іпатава, аўтар аповесьці „Прадыслава", надрукаванай у журнале „Маладосьць".

Мова йдзе пра тое, што пераказ „жыцьцяў сьвятых", навет з гарнірам любоўнай інтрыгі й выпісак з археалягічных манаграфіяў, не адказваюць ні заданьням камуністычнага выхаваньня моладзі, ні патрабаваньням, якія ставяцца гістарычнаму жанру мастацкай літаратуры...

„Беларускім гуманістым абвешчан, напрыклад, вядомы багаслоў Мялеці Сматрыцкі, — піша далей Абэцэдарскі — які апраўдваў у сваіх творах ідэялягічныя пазыцыі праваслаўнай царквы, а потым пераматнуўся ў каталіцкі лягер...

Адным з буйных дзеячоў праваслаўнай царквы Украіны й Беларусі канца XVI — першай паловы XVII вякоў быў багаслоў Лаўрэньці Зізані (Кукель)... некаторымі гісторыкамі таксама абдараны званьнем прасьветніка, прыхільнага рацыянальнай рэфармацыі...

Усякая ідэялізацыя гэтых абаронцаў феадальна-рэлігійнай ідэялёгіі зьяўляецца ў той-жа час ідэялізацыяй царквы, праступствы якой прад розумам, прад навукай, прад чалавецтвам залішне вялікія".

Да гэтага патрэбна крыху камэнтараў. Недарэчная й вульгарная фантазія Іпатавай ставіць аповесьць ейную ў рад „літаратуры" супрацьхрысьціянскага агітпропу. Вымогі-ж Абэцэдарскага, каб аповесьць адказвала патрабаваньням „комуністіческого воспітанія" ані не разумнейшыя за фантазію Іпатавай. Прыпісваць-жа праступства цэрквам і манастыром за шырэньне асьветы, — гэта калі не праступства, то найзвычайнейшая дурота.

Ведама-ж усім, што пачаткавая асьвета пачалася ў манастырох і пры цэрквах. Ніхто іншы за гэтую працу тады ня браўся, а тымбалей гэтай працы не аспрэчваў. Было гэта перадусім шырэньне элемэнтарнай граматы. Потым — пісаньне розных летапісаў, хронікаў — што становіць цяпер неацэненную вартасьць. Для Абэцэдарскага ўсё гэта — праступства. Значыць хрысьціянскія асьветнікі, летапісцы павінны былі чакаць, пакуль народзіцца Абэцэдарскі, ды бяз элемэнтарнай граматнасьці пакажа ім сваю абсурдальную камуністычную навуку?...

Каб надаць сваёй блуднай і бруднай пісаніне некае „важнасьці", Абэцэдарскі падпісаў: — „член-карэспандэнт АПН СССР, доктар гістарычных навук, прафэсар". Але, бадай, ці знойдзецца ў самым агітпропе другі гэткі „прафэсар", каб такую хлусьлівую лухту намагаўся ўзводзіць у праўду, так як ня знойдзецца чалавек, каб гэткай плявузгоце верыць.

(Узята з газ. „Советская Белоруссия" — 17. 5. 1973, — газэты прызначанай на нутраны „ўжытак" у БССР.)

---

## ДЗЕСЯЦІЛЕЦЬЦЕ СЬВЯТАРСКАЕ ПРАЦЫ

## АЙЦА ЯНКІ АБАБУРКІ

**Дастойны Войча!**

З нагоды дсясятых Угодкаў Вашай ахвярнай душпастырскай працы на карысьць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Кансысторыя БАПЦ шчыра вітае Вас, Войча, ды выказвае якнайлепшыя ўзнаньні за вялікую Вашую працу на ніве рэлігійнацаркоўнай і грамадзкай.

Хай Усемагутны ўзмацуе Вашыя сілы ды ўспаможа й надалей вясьці слаўную працу духова-рэлігійнага й грамадзкага ўзгадаваньня беларускага народу на чужыне.

6. 8. 1973 г.

**Прат. Васіль Кендыш**
**Сакратар Кансысторыі БАПЦ**

---





© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

## ✠ СЬВЯТ. ПАМ. АЙЦЕЦ ВАСІЛЬ ЧЫЧЭЛІС

**Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква**

З Божае волі, пасьля зацяжное хваробы, 5-га ліпеня 1973 году адышоў на вечны супачынак настаяцель Парафіі сьв. ап. Пятра й Паўла ў Адэляйдзе — Аўстралія —

**сьв. пам. а. ВАСІЛЬ ЧЫЧЭЛІС**

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква страціла добрага, старальнага й ахвярнага працаўніка на ніве Божай, аб чым з глыбокім смуткам і жалем паведамляе Кансысторыя.

**Вечная яму памяць!**

**Прат. Васіль Кендыш** — Сакратар



У чацьвер 5-га ліпеня сёлета, пасьля доўгае й цяжкое хваробы адыйшоў у вечнасьць сьвятар БАПЦарквы сьв. пам. Йерэй Васіль Чычэліс — настаяцель Парафіі Сьв. Ап. Пятра й Паўла ў Адэляйдзе ў Аўстраліі.

Радзіўся а. Васіль ад бацькоў Хведара й Тэклі 6-га студзеня 1915 году ў вёсьцы Канюхі, Маладэчанскага павету на Віленшчыне. Пачатковую школу кончыў у Гарадзілаве, а сярэднюю асьвету здабыў у Вільні.

У 1939 годзе быў мабілізаваны ў польскую армію і на 10-ты дзень вайны трапіў у нямецкі палон. У Нямеччыне працаваў каля 10 год. У м-цы ліпені 1949 году выехаў у Аўстралію й асеўся на сталае жыхарства ў м. Адэляйдзе. Там пазнаўся з Альжбетаю Роўтополоў, грэцкага паходжаньня і ўвайшоў з ёю ў сужэнства.

27-га сьнежня 1959 г. прыняў рукапалажэньне ад Архіепіскапа Сяргея ў сан дыякана, і прызначаны быў да парафіі БАПЦ ў Адэляйдзе.

19-га лістапада 1967 г. Архіепіскап Сыльвэстр узьвёў яго ў сан йерэя. Напрацягу 14-ці год а. Васіль шчыра служыў Богу й Беларускаму Народу.

Асіраціў 4-ра дзетак і хворую жонку Альжбету. Паховіны адбыліся 7-га ліпеня, у часе якіх брала ўдзел сем сьвятароў: беларускі, украінскія, сэрбскія й грэцкі. Пахаваны на магільніку каля ангельскае царквы ў Адэляйдзе, недалёка ад месца жыхарства асіраццелае ягонае сямейкі.

З сьмерцьцю сьв. пам. А. Васіля Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква панесла яшчэ адну вялікую страту, як аднаго з нялічных сьвятароў, які сьведама прыняў сьвятарскі сан, каб пашыраць Хрыстовую навуку сярод сваіх суродзічаў Беларусаў.



## СЬВЯТОЕ ПАМЯЦІ ПРАТАДЫЯКАН КАЛІСТРАТ САВІЦКІ



Дня 16-га травеня сёлета ў Кліўленьдзе парафіяне БАПЦарквы правялі на вечны супачынак свайго незабыўнага першага дыякана адроджанае БАПЦарквы на чужыне сьв. пам. Калістрата Савіцкага.

Нарадзіўся Калістрат Савіцкі 27-га кастрычніка 1887 году ў вялікай вёсцы Акунінава, Слонімскага павету. Пачатковую школу кончыў у СтарыхДзявяткавічах, а гарадзкое 4-х клясовае вучылішча — у Слоніме. У 1915 годзе, перад наступам нямецкае арміі, быў прымусова вывезены ў глыб Расеі, аж у горад Чыстопаль, дзе закончыў бугальтэрскі курс. На выгнаньні прабыў каля сямі гадоў. Пасьля павароту на Радзіму праз даўжэйшы час выконваў функцыю аб'езчыка ў дзяржаўным лясьніцтве. Ужо ў дзяцінстве адзначаўся пабожнасьцю, наведваў часта Жыровіцкі манастыр і меў намер пасьвяціць сябе на службу Богу, але гэтаму перашкодзіла вайна, а пазьней затрымала пасада ў дзяржаўнай установе. Думка стацца дыяканам не пакідала яго ўсьцяж, і ўсьцяж меў сталую лучнасьць з духавенствам Жыровіцкага манастыра.

У 1940 годзе быў бальшавікамі арыштаваны, але вывезьці яго на Сібір не пасьпелі. У часе другое Сусьветнае вайны разам з іншымі беларусамі выехаў у Нямеччыну, дзе 15-га сьнежня 1950 г. прыняў рукапалажэньне ад Архіепіскапа Сяргея ў сан дыякана й прызначаны быў служыць у Сьв.-Мікалаеўскай Царкве ў лягеры ў Розэнгайме, у Баварыі.

Пераехаўшы ў Амэрыку асеўся ў Кліўленьдзе, дзе працаваў у сталёўні й адначасна выконваў абавязкі дыякана ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе. Дня 6-га верасьня 1963 году быў узьведзены ў сан пратадыякана.

Вестка пра ягоную сьмерць засмуціла Беларусаў у Кліўленьдзе й ваколіцах. Супраўаджаць на вечны супачынак сабралася досыць вялікая грамада суродзічаў і прыяцеляў ягоных ад іншых нацыянальнасьцяў. У сераду 16-га травеня цела было перавезена з бюра паховінаў у Сабор БАПЦарквы ў Кліўленьдзе, дзе была адслужана Заўпакойная Літургія й абрад паховінаў, якія выканаў Уладыка Андрэй у суслужэньні дыякана Міхася, з удзелам хору пад кіравецтвам рэгента Кіслага. Пахаваны на магільніку „Бруклын Гайдс цэмэтэры", побач з сваёю спадарожніцаю жыцьця Зофіяй Савіцкаю, якая адыйшла ў вечнасьць раней на 13 год. У часе паніхідаў і на магільніку разьвітальныя словы прамаўляў Уладыка Андрэй.

Пасьля паховінаў адбыўся памінальны абед, на якім добрымі словамі паміналася ягоная праца на рэлігійнай ніве й добрыя прыязныя суадносіны з людзьмі.

**Вечная Яму памяць!**



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

## УЗНАГАРОДЫ

Дня 3-га чырвеня сёлета Настаяцель Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне а. Карп Стар за старанную й самаахвярную працу на славу Богу й дабро БАПЦарквы быў узнагароджаны камілаўкаю, а матушка Вольга — пахвальнаю граматаю.

## КАНСЫСТОРЫЯ БАПЦ

9 River Road, Higland Park, N. J. 08904.

23 лютага 1973 г.

**Спіс ахвярадаўцаў на помнік сьв. пам. Архіепіскапа ВАСІЛЯ:**

**З Парафіі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Др. Уладзімір Набагез | $ 100.00 | Б. Яновіч | 25.00 |
| Мікола Гарошка | 75.00 | Пётра Манькоўскі | 20.00 |
| Валентын Гарошка | 50.00 | Міхась Рагуля | 20.00 |
| Міхась Міцкевіч | 50.00 | Александар Груша | 20.00 |
| Віталі Кажан | 45.00 | Лявон Савёнак | 15.00 |
| Мікалай Сьнежка | 30.00 | Алекс Яновіч | 10.00 |
| Янка Яновіч | 30.00 | Андрэй Каптуровіч | 10.00 |
| Александар Міцкевіч | 25.00 | Александра Махноўская | 10.00 |
| Зіна Станкевіч | 25.00 | Валент. Міцкевіч | 10.00 |
| Кастусь Верабей | 25.00 | Юрка Касьцюкевіч | 10.00 |
| Міхась Тулейка | 25.00 | Натальля Кушаль | 10.00 |
| Янка Крэсла | 25.00 | | |

**З Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрсі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Тамаш Супрун | 50.00 | Уладзімір Лосік | 20.00 |
| Васіль Русак | 40.00 | Янка Азарка | 20.00 |
| Васіль і Ніна Стомы | 30.00 | Аўген Лысюк | 20.00 |
| Прат. Васіль Кендыш | 25.00 | Уладзімір Сьліўка | 15.00 |
| Мікалай Войтэнка | 25.00 | Аляксей Балкоўскі | 10.00 |
| Янка й Анна Лук'янчык | 25.00 | Пётра Кажура | 10.00 |
| Міхал Сільвановіч | 25.00 | Уладзімір Харавец | 10.00 |

**Непасрэдна ў Касу Епархіяльнае Управы:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Праф. Леў Акіншэвіч | 27.00 | Др. Аўген Вярбіцкі | 10.00 |
| Кс. Франц. Чэрняўскі | 20.00 | Праф. Улад. Сядуро | 10.00 |
| Павал Драздоўскі | 20.00 | Мікалай Александровіч | 10.00 |
| Александар Няпейн | 20.00 | | |

**Усім ахвярадаўцам шчырае дзякуй!**

Гэтыя ахвяры пакрылі толькі адну трэцюю коштаў помніка, а таму Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы просіць усіх іншых нашых суродзічаў пераслаць сваю ахвяру ў Кансысторыю.

**Прат. Васіль Кендыш — Сакратар**



## НОВАЯ ПАРАФІЯ БАПЦ

Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы паведамляе аб адчыненьні новае Парафіі Сьвятой Тройцы ў Дороты, штату Нью Джэрсі — ЗША.

Арганізатарам і кіраўніком вызначаны а. Карп Стар.

30-га чэрвеня сёлета ініцыятыўная група на Агульным Сходзе выбрала Парафіяльную Раду ў наступным складзе: Стараста — Фёдар Маншыеў, Сакратар — Дзімітр Юркоўскі, Скарбнік — Фёдар Марыноўскі, Старшая Сястра — Іра Кобільнік, Сябра Рады — Матрона Юркоўская.

Парафія прыводзіць да парадку й царкоўнага ўладжаньня куплены будынак, каб у найбліжэйшым часе распачаць Божыя Службы. Мы шчыра вітаем і жадаем Парафіі посьпеху ў падрыхтоўчай працы на Славу Божую й на ўцеху вернікаў. Дапамажы Вам Божа!

**Кансысторыя**

# ХРОНІКА

## ПАРАФІЯ СЬВ. БАПЦАРКВЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ — АЎСТРАЛІЯ

Дня 23-га сакавіка 1973 г. у мясцовай Царкве пасьля Сьв. Літургіі быў адслужаны Малебен з нагоды Акту 25-га Сакавіка — Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

У сваім слове а. прат. Аляксандар прыпомніў прысутным вернікам важнасьць гэтай векапомнай падзеі для беларускага адраджэньня, зароўна ў мінулым, сучасным і будучым.

Прысутныя вернікі й госьці былі ўзрушаны мілагучным пяяньнем падчас Багаслужбаў. Малебен закончыўся Многалецьцем нашым Уладыкам, вернікам сьв. БАПЦарквы ды слаўнаму беларускаму народу й рэлігійным гімнам — Магутны Божа.

***

Звычаем папярэдніх гадоў, пасьля сьв. Літургіі й Паніхіды ў Фаміную Нядзелю (6. 5. 1973 г.) вернікі Мэльбурнскай Парафіі БАПЦарквы начале з а. Аляксандрам наведалі магілкі суродзічаў, якія адыйшлі ўжо на вечны супачынак.

У гэтым годзе беларуская група вернікаў была лічнейшай як іншых веравызнаньняў; на магілках далучыліся й тыя суродзічы, якія яшчэ не належаць да нашае Парафіі.

Хор сваімі шчырымі напевамі выклікаў глыбака-малітвеннае пачуцьцё ў прысутных. Наведваньне супачыўшых закончылася на беларускай дзялянцы. Дзень закончыўся супольнай бяседай, пры надзвычай лагодным надвор'і, ды спажыцьцём багатых страваў, прыгатаваных кроўнымі у памяць адыйшоўшых у вечнасьць.

***

Дня 8-га красавіка 1973 г. на 60-ым годзе свайго жыцьця адыйшоў у вечнасьць сьв. п. Трыфон Хітрык. Пакойны пакінуў жонку й дзьве дачкі. Цела пакойнага пахавалі 12. 4. 73 г. на беларускіх магілках. Чын пахарону выканаў а. Аляксандар.

***

Дня 11-га травеня 1973 г. на 77-ым годзе свайго жыцьця адыйшоў у вечнасьць сьв. пам. Паўла Барсток.



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Пакойны Паўла ўсё сваё жыцьце быў прыхільным сынам Праваслаўнае Царквы, за што нямала перанёс зьняваг і цяжкасьцяў. Ня гледзячы на век, ахвотна падстаўляў свае плечы, каб нясьці цяжар БАПЦарквы і тут — у Мэльбурне — няўтомна нёс узяты на сябе сьв. абавязак да апошняга дня свайго жыцьця.

Хоць быў звычайны працоўны дзень, на пахароне прысутнічала звыш сотні асобаў.

Пакойны Паўла пакінуў жонку, сына, дзьве дачкі й шэсьць унукаў.

15. 5. 73 г. цела пакойнага Паўлы пахавалі на беларускіх магілках. Чын пахарону выканаў а. Аляксандар.

## З РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў МАНЧЭСТЭРЫ — АНГЛІЯ

Першы раз у сваёй собскай царкве Беларусы ў Англіі абходзілі адно з найвялікшых хрысьціянскіх сьвят — Хрыстовае Ўваскрасеньне.

У сыботу 28-га красавіка 1973 г. на Ўсяночную сабраліся вернікі ня толькі з Манчэстэру, але й з Брадфорду, Бірмінгаму, Бэрну й Нотынгаму. Разам удзел брала каля 300 асоб. Адразу кінулася ў вочы тое, што сярод удзельнікаў было шмат моладзі, якая нарадзілася ўжо ў Англіі й узгадоўвалася ў ангельскіх школах.

У перапоўненай па берагі царкве Паўночніца распачалася а гадзіне 10:30, пасьля — Сьветлая Ютраня й Сьвятая Літургія, якую адпраўлялі прат. Я. Абабурка і а. Я. Пякарскі з удзелам цудоўна-сьпеўнага хору. Шмат вернікаў прыступала да споведзі й сьв. Прычасьця.

У царкве заўважана, што вочы ўсіх былі ськіроўваны на тры нядаўна набытыя прыгожыя абразы ў памеры 60 цм на адзін мэтар і 20 цм. Гэта абразы: Жыровіцкае Божае Маці ў чэсьць якое пасьвячана Царква, абраз сьв. Кірылы Тураўскага й абраз сьв. Ефрасіні Полацкай. Усе абразы атрыманы з Польшчы, дзякуючы а. Я. Пякарскаму, зь якіх адзін абраз ён ахвяраваў сам, а кошты двух другіх пакрыла парафія. Абразы з абрамаваньнем каштавалі 120 фунтаў.

Пасьля сьв. Літургіі адбылося пасьвячэньне Вялікодных Пасхаў і традыцыйнае разгаўленьне.

***

У нядзелю 20-га травеня Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры абходзіла парафіяльнае сьвята й 800-ю гадавіну з дня сьмерці сьв. Ефрасіні Полацкай — Асьветніцы Беларускага Народу.

Сьв. Літургію адпраўлялі Прат. Я. Абабурка й а. Я. Пякарскі. Пасьля Літургіі быў адпраўлены Малебен. Акадэмію, прысьвечаную Ефрасіні Полацкай, якая адбылася ў царкоўнай залі, адкрыў Сакратар Парафіяльнае Рады П. Шыркоўскі. Рэфэрат пра жыцьцё сьвятое Ефрасіні прачытаў прат. Я. Абабурка. Рэфэрат быў вельмі зьмястоўны; ў ім шмат увагі было зьвернена на Ефрасінеўскі Крыж, які ўжывае наша Царква, бо ня ўсім вернікам было яшчэ зразумелым, чаму мы такі крыж ужываем.

Пасьля акадэміі, за сталамі, ўстаўленымі рознымі стравамі, заселі ўсе ўдзельнікі ўрачыстасьці, і ў мілай сяброўскай бяседзе адбыўся супольны абед, які прыгатавала матушка Абабурка з сваімі памачніцамі.

Па спажыцьці патраваў, распачаліся прамовы. На асаблівую ўвагу заслугоўвае прамова Сакратара Рады Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Вялікабрытанію сп. Янкі Калбаса.

За арганізаваньне Парафіяльнага сьвята належыцца шчырая падзяка матушцы Абабурка й прат. Я. Абабурка.

Як урачыстая Багаслужба, гэтак і акадэмія пазаставілі добрае ўражаньне ў прысутных, узмацняючы іх духова.

**М. Яськевіч**

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ ЮБІЛЕЯЎ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Парафія Жыровіцкае Божае Маці 10-га чырвеня сёлета ўрачыста адзначала тры юбілеі: сьвята Патронкі Храму свайго, 25-цілецьце аднаўленьня БАПЦарквы й 800-я ўгодкі з дня сьмерці Сьв. Ефрасіні Полацкай.

Ужо на працягу трох тыдняў парафіяне дбайліва падрыхтоўваліся да сьвяткаваньня. Бо-ж усе тры юбілеі моцна спалучаны між сабою й зьяўляюцца ня толькі сымбалем парафіяльнага сьвяткаваньня — адданьня чэсьці й хвалы Жыровіцкай Божай Маці, — але адначасна сьвяты нацыянальныя Беларускія: услаўленьне нашае Сьвятое Ефрасіні — асьветніцы народу Беларускага, і сьвята аднаўленьня свае роднае Царквы. Уладычыца-ж нашая Маці Божая, зьявіўшыся ў Жыровіцах, праз увесь час узмацняла духовае імкненьне Народу нашага, як узмацняе й цяпер, — і тут, на чужыне й там, на Бацькаўшчыне.

Багаслужба распачалася паводля вызначага парадку. Увечары 9-га чырвеня была адслужана Ўсяночная, а ў нядзелю 10-га чырвеня а гадзіне 10-ай рана распачалася Сьв. Літургія, якую правіў Уладыка Андрэй у асысьце пратаерэя Ляонція, а ў часе Малебну й пратаерэя Сьцяпана. Урачыста сьпяваў хор пад кіравецтвам рэгента Кіслага.

Пасьля Багаслужбаў усе ўдзельнікі сабраліся ў царкоўнай залі на супольны абед — бяседу. На абедзе былі прадстаўнікі й ад іншых нацыянальнасьцяў. Абед пачаўся супольнаю малітваю — Войча Наш — і асьвячэньнем ежы праз Уладыку Андрэя. У часе абеду быў уважна выслуханы рэфэрат пра жыцьцё Ефрасіні Полацкай, які чытаў Уладыка Андрэй. Шчыра й сардэчна вітаў прысутных пратаерэй Сьцяпан Пасакіўскі, удзельнік аднаўленьня БАПЦарквы, — яшчэ быўшы ў сане дыякана ён прымаў удзел у хіратоніі Сьв. П. Уладыкі Васіля. Пратаерэй Хведар Каваленка ў сваей прамове адзначыў, што БАПЦарква, як і Украінская Праваслаўная Царква — родныя сёстры, бо як у старажытнасьці, гэтак і ў сучаснасьці перажываюць аднолькавую долю.

У заканчэньні старшыня Парафіяльнае Рады і Уладыка Андрэй падзякавалі гаспадыням за добра прыгатаваны абед, і малітваю — Багародзіца Дзева Радуйся — урачыстасьць была закончаная.

## БЕЛАРУСКІ АДДЗЕЛ КЛІЎЛЕНДЗКАЙ ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭКІ

У сыботу 9-га чырвеня сёлета Беларусы ў Кліўленьдзе мелі нагоду ўрачыста адзначыць адкрыцьцё Беларускага Аддзелу пры гарадзкой Публічнай Бібліятэцы.

Кліўленд — адзін з найвялікшых гарадоў ЗША — мае шмат розных культурных установаў, а ў ліку іх і вялізэзная Публічная Бібліятэка. Шмат хто зь беларускае эміграцыі, асабліва студэнты, прыбыўшы ў Кліўленд, зараз-жа накіраваліся ў бібліятэку, знайшлі Дэпартамэнт Чужынецкіх Моваў, ды толькі дарэмна шукалі яны кніжак у беларускай мове. Іх ня было.

Зацікавіўся гэтаю справаю Алесь Змагар ды падаў заяўку на адчыненьне Беларускага Аддзелу. Ня гледзячы на першыя няўдачы, ён гэтае справы не пакінуў. Зараз-жа па прызначэньні ў Кліўлендзкую Публіч-



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

ную Бібліятэку на пасаду дырэктара Вальтэра В. Курлі, зноў падаў заяўку-просьбу на адчыненьне Беларускага аддзелу. На гэты раз да справы аднесьліся прыхільна, як дырэктар В. Курлі, так кіраўнічка Дэпартамэнту Чужынецкіх Моваў Тэльма М. Розэ, і асабліва дзейны ўдзел прыняла асыстэнтка кіраўнічкі Дэпартамэнту Чужынецкіх Моваў Натальля Б. Безуглова. У чырвені 1972 году быў атрыманы дазвол на адчыненьне Беларускага Аддзелу, даданага да 38 ужо існуючых.

Тады ўсплыла новая праблема — дзе дастаць беларускія кніжкі? Пакуль іх зьбіраць ці выпісваць, Алесь Змагар на другі-ж дзень прынёс свае кніжкі, як ахвяру для бібліятэкі, ды тэлефанічна напамянуў Мітрапаліту Андрэю пра ахвяраваньне кніжак. Мітрапаліт Андрэй хутка адгукнуўся ды ахвяраваў шмат сваіх кніжак, а таксама зьвярнуўся да С. Карніловіча, які ахвяраваў для бібліятэкі вельмі шмат кніжак. Гэткім чынам заложаны першы фонд Беларускага Аддзелу Кліўлендзкай Публічнай Бібліятэкі.

Беларусы Кліўленду шчыра ўдзячныя Дырэктару Кліўлендзкай Публічнай Бібліятэкі Вальтэру В. Курлі, былой Кіраўнічцы Дэпартамэнту Чужынецкіх Моваў сп. Тэльма М. Розэ, сп. Натальлі Б. Безуглавай — сучаснай Кіраўнічцы Дэпартамэнту, а таксама ўсім ахвярадаўцам кніжак. Месьціцца Беларускі Аддзел побач з Аддзелам Баўгарскім.

Таго-ж дня, 9-га чырвеня ў Кліўлендзкай Публічнай Бібліятэцы адбылася другая беларуская ўрачыстасьць, менавіта — Выстаўка Рэчаў Беларускай Культуры, якая прыгожа выдзялялася сярод іншых нацыянальных выставаў. Арганізаторкаю Выставы была Іра Каляда-Сьмірнова. Гаспадыняю-ж для пачосткі гасьцей была Клаўдзя Каляда. Ад беларускага грамадзтва ім шчырае беларускае **дзякуй.**

Адведала бібліятэку й выставу карэспандэнтка мясцовай газэты „Клэвэланд Прэсс" і асабліва цікавілася беларускімі экспанатамі на выстаўцы.

**А. Я.**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Праклямаваны Прэзыдэнтам Ніксанам з 15 ліпеня, сёлета тыдзень паняволеных народаў адбываўся звыкла паводля праграмы папярэдніх гадоў. У Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Нядзелю 22-га ліпеня, пасьля Сьв. Літургіі Уладыка Андрэй адслужыў Малебен за здароўе й вызваленьне Паняволеных Народаў.

У панядзелак а гадзіне 7-й вечара, 22 нацыянальнасьці, што жывуць у Кліўленьдзе, прынялі чынны ўдзел у пратэсьце супроць панявольнікаў.

У вызначаным часе ўсе сабраліся на адным з пляцоў у Кліўленьдзе, адкуль з сваімі нацыянальнымі й Амэрыканскімі сьцягамі накіраваліся да будынку Гарадзкое Ўправы, дзе адбываўся пратэстацыйны мітынг.

Пасьля адсьпяваньня Амэрыканскага гімну, Уладыка Андрэй адчыніў мітынг малітваю.

Галоўным прамоўцам быў Старшыня горада Кліўленда Мр. Ральф І. Пэрк, які даў шырэйшы агляд міжнароднае палітыкі, адзначаючы тыя дзяржавы, якія ў жудасны спосаб прасьледуюць рэлігійнае й нацыянальнае імкненьне іншанацыянальных народаў, якія жывуць пад іхняю ўладаю, або падлягаюць іхняму ўплыву.

На заканчэньне была прынята рэзалюцыя з дамаганьнем спыненьня прасьлядаваньня.



## РЭЛІГІЙНЫ УЦІСК У БССР

**Адна з няzьлічоных гісторыяў.**

У савецкім часапісе „Наука и религия" зьмешчана цэлая гісторыя Івана Пякарскага, з вёскі Алешкавічы Берасьцейскай вобласьці.

Сям'я Пякарскіх складалася з трох асобаў: маці, сына й дачкі, бацька загінуў на савецка-нямецкай вайне. Сям'я жыла ў вялікай беднасьці. У часе сутычкі савецкіх партызан з немцамі згарэў іх дом. З-за недагляду малы Іван страціў вока. Гэта, як мяркуе „Навука й рэлігія", павярнула маці да асаблівай рэлігійнасьці, а дачка асталася безрэлігійнай. Цікавасьць толькі, чым тая савецкая „навука" мерала безрэлігійнасьць дачкі? . . .

Асаблівая схільнасьць і скіраванасьць да Бога выявілася ў маладога Пякарскага з дзяцінства. Ні гульні, ні матарыяльныя зацікаўленьні яго не захаплялі. Больш за ўсё ён аддаваў часу чытаньню рэлігійных кніг, якія ўдавалася яму даставаць. Потым здолеў ён уступіць у духоўную сэмінарыю й закончыць яе. Аднак да сьвятарства ня быў дапушчаны, атрымаў прызначэньне толькі на псаломшчыка ў вёску Чарноўчыцы. Як відаць, кандыдаты ў сьвятары ў Маскоўскай Патрыярхіі прасейваюцца праз густое бальшавіцкае антырэлігійнае сіта.

Ня гледзячы на вонкавыя абставіны, Пякарскі праводзіў рэлігійную місыйную дзейнасьць: пашыраў эвангельскую навуку, заклікаў людзей на праслуханьне радыёвых рэлігійных перадач; і людзі прыходзілі. У выніку гэтага быў штрафаваны, але штрафу не плаціў; быў пакліканы ў паліцыю, але сам ня йшоў. Потым быў пакараны арыштам на дзесяць дзён. А з маці, відочна зь яе мізэрнага калгаснага заробку, вылічылі 10 рублёў за ўтрыманьне сына ў арэшце. Потым была заведзена судовая справа, і ў пастанове суду — з 28 сьнежня 1971 году — было запісана: „Пякарскі І. Н. выявіў злоснае непаслушэнства працаўніку паліцыі, адмовіўшыся ехаць з ім у аддзел паліцыі для мэдыцынскага агляду і ўстанаўленьня яго працаздольнасьці" . . .

Гэткае „савецкае правасудзьдзе" й „дбаньне пра чалавека", відочна, перабрала меру й, магчыма, выклікала агульнае абурэньне за зьдзек з чалавека, калі ў прэсе змушаныя былі прызнаць, што былі „дапушчаны памылкі, пралікі". А пракуратура прыслала ліст да маці Пякарскага, што яна можа атрымаць затрыманыя ад яе 10 рублёў. Але Пякарскія гэтых грошай зракліся.

Іван Пякарскі астаўся нібы на волі, калі-б можна было назваць воляю падсавецкае жыцьцё.

Афіцыйная-ж царква Маскоўская з псаломшчыцкага становішча яго зволыніла.

Пякарскага не зламалі. „Я хачу служыць Богу й толькі Богу. Не чапайце мае веры. Мне падабаецца жыць у беднаце й запусьценьні", заявіў ён.

---

Рэдакцыя „Голасу Царквы" жадае ад чытачоў і просіць большае падтрымкі, як супрацоўніцтвам, так і сталай аплатай часапісу. Не пакіньце просьбы бяз увагі.



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# БАЛЬШАВІЦКАЯ МАРАЛЬ

,,Навучаць дзяцей рэлігіі дзела немаральнае'', піша газэта ,,Советская Белоруссия''. І за гэтым падае, што Аўген Сільчукоў, Ліда Каржанец, Ніна Масюк і Іван Трухан былі засуджаны за навучаньне дзяцей рэлігіі без дазволу ўлады й за намаўленьне людзей уневажняць савецкія законы. Рэчаіснасьць паказвае, што ,,ўневажненьнем савецкіх законаў'' становіцца сам факт навучаньня рэлігіі дзяцей, што забараняецца гэтымі законамі. Як пакараны судом гэтыя людзі, у часапісе не падаецца. Зазначаецца, што ўсе засуджаныя належалі да незарэгістраванае рэлігійнае сэкты. А Сільчукоў ужо раней адбываў кару за ,,намаўленьне беларускіх баптыстаў не зварачаць увагі на савецкія законы''. Па звальненьні з вязьніцы ён заснаваў баптыскую грамаду, але таксама не зарэгістраваў яе. На судзе ён казаў: ,,Мы нікога не забілі, не аграбілі, — завошта-ж вы нас судзіце?'' Пытаньне пастаўлена, што называецца, ,,пад корань''. Бо праўдзівы бальшавіцкі адказ на гэтае пытаньне быў-бы: ,,За тое вас і судзім, што вы адмаўляецеся забіваць і грабіць'' — бо на гэтым якраз базуецца бальшавізм.

Тымчасам, падобныя суды адбываюцца па ўсёй Беларусі й па ўсім СССР і ня толькі над баптыстамі, а наагул над хрысьціянамі.

Як відаць, лік баптыстаў у БССР не зьмяншаецца, а павялічваецца. Гэтаму ў пэўнай меры спрыяе антырэлігійная бальшавіцкая дзейнасьць, перадусім — руйнаваньне сьвятыняў. Не прыдаючы паважнейшага значэньня вонкаваму выяўленьню рэлігійнасьці, баптысты зьбіраюцца на маленьне ў кажнай першай хаце, альбо і ў кажным месцы. Датога-ж, пры слабой герархічнай арганізацыі, на баптыстаў ня так латва ціснуць праз цэнтр, як, скажам, праз Маскоўскую Патрыярхію. Затое, над баптыстамі часьцей здараюцца мясцовыя суды .



**Помнікі Беларускай Архітэктуры.**

Царква ў вёсцы Зьбірогі на Берасьцейшчыне. Была пабудаваная ў 1610 г.